Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 31. Вільня, 22 кастрычніка 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8 — 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Аб амэрыканскай пазычцы.

13 гэт. кастрычніка група амэрыканскіх фінансістых, пасьля доўгіх таргоў з польскім урадам, падпісала умову аб пазычцы польскай дзяржаве 75 мільёнаў даляраў, што ў перакладзе на польскія грошы, па курсу 8,9 злотага за адзін даляр, дасьць 667 з паловай мільёнаў злотых.

Польшча, за часы свайго кароткага незалежнага існаваньня няраз зьвярталася да міжнароднай фінансіеры з просьбай аб большай пазычцы, без якой немагчыма адбудаваньне зруйнованага сусьветнай вайною гаспадарскага жыцьця Польшчы. Адказам на гэтыя прапазыцыі было альбо поўнае маўчаньне, альбо дробныя пазычкі на страшэнна цяжкіх варунках, якія можна было ставіць толькі вельмі няпэўнаму крэдытору. І ня дзіва. Банкіры — народ асьцярожны. Яны ня любяць пазычаць свае грошы ў няпэўныя рукі.

І калі мы глянем на тое, што рабілася ў Польшчы за часы дамаёвага перавароту, то прыдзем да перакананьня, што яны мелі шмат повадаў глядзець на Польскую дзяржаву, як на вельмі няпэўнага крэдытора. Грызьня парлямэнцкіх партыяў, бязустанная зьмена то паасобных міністраў, то цэлых урадаў, эканамічны заняпад, бязупыннае хістаньне валюты, прадажнасьць і зьдзекі чыноўнікаў, маральны развал арміі, узрастаньне з дня на дзень нездаволеньня шырокіх працоўных масаў польскага народу, неапісальны нацыянальны гнёт і зьдзекі, і як рэзультат гэтага—варожы да Польшчы настрой беларускіх і украінскіх народных масаў. Вось абразок недалёкага мінулага Польшчы. Пры такіх варунках, ведама, не магло быць і гутаркі аб якім-небудзь даверры Польшчы з боку заграгічных фінансістых, якія заўсёды больш, чым хто іншы, маюць даных для правідловай ацэнкі палітычнай і фінансавай сытуацыі кожнае дзяржавы.

Вось цяпер гэна пазычка, адтрыманая на выгадных варунках, гэта вялікі трыумф працы ўрадаў пасьлямаёвага перавароту. Яна зьяўляецца бязумоўным доказам, што за паўтара года працы гэтых урадаў у Польшчы нешта перамянілася. Перамянілася ў тым сэнсе, што Польская Дзяржава з сытуацыі няпэўнага, блізкага банкруцтва, крэдытора, перайшла ў стан палітычна і эканамічна дасьпелага дзяржаўнага арганізму.

Пазычка гэная, гэта афіцыяльнае прызнаньне палітычнае і эканамічнае моцы Польскае дзяржавы з боку міжнароднай фінансіеры, якая рэдка калі мыляецца ў сваёй ацэнцы.

У гэтым факце вялікае маральнае значэньне адтрыманай пазыкі.

Гэта падкрэсьлівае ня толькі ўся польская прэса, але і прэса заграгічная, як француская, ангельская, бэльгійская, а нават і варожая Польшчы прэса нямецкая.

Апроч моральнага значэньня, пазычка гэта бязумоўна мае вялікае значэньне для далейшага эканамічнага разьвіцьця Польскае дзяржавы. Праўда, пайбольшая часьць яе пойдзе на ўзмацаваньне польскае валюты і толькі нязначная частка яе, каля 150 мільёнаў, пойдзе на гаспадарчую адбудову краю. Але не падлягае ніякаму сумліву, што гэная першая пазычка адчыняе шырока вароты для далейшых заграпічных пазычак, якія гэтак патрэбны для інтэнсыўнай гаспадарчай адбудовы Польскае дзяржавы. Рэч зразумелая, што ўсё польскае грамадзянства спаткала гэную пазычку з вялікай радасьцяй.

Нездаволена з гэтай пазычкі адна польская эндэцыя, якая ўсялякімі спосабамі стараецца зьменшыць яе значэньне. Зьмяншаючы значэньне яе, яна мае на мэце зьменшыць трыумф свайго найвялікшага ворага, Маршалка Язэпа Пілсудскага, урад каторага адтрымаў пазычку, якой дарэмна дабіваліся эндэцкія ўрады.

Адсюль і ўвесь гвалт, адсюль і ўсе фокусы эндэцкае прэсы.

Гэтага не разумее, ці ня хоча зразумець „Сялянская Ніва“, якая ў № 76 за 19-га кастрычніка, гаворачы аб пазычцы, як чыстую праўду, друкуе выпіскі з эндэцкае газэты „Dziennik Wileński“, паводле каторага Польшча мае адтрымаць з 75 мільёнаў даляраў усяго толькі 58 мільёнаў, а быццам 17 мільёнаў даляраў пайшло на расходы, выкліканыя самой пазычкай.

У адказ на гэта „Сялянскай Ніве“ мусім сказаць, што ня зусім бясьпечна прывучаць сваіх чытачоў да прызнаваньня за сьвятую праўду тае брахні, якую разводзіць „Dziennik Wileński“. Бо вельмі часта той самы „Dz. Wil.“ піша, што беларусаў няма, што школы беларускай ня трэба і таму падобныя „мудрыя праўды“. Прывучаны „Сялянскай Нівай“ верыць у брахню „Dz. Wil.“, той ці іншы цёмны, нясьведамы беларус — і іншым мудрым „праўдам“ яго верыць будзе. Ці гэтага хоча дабіцца „Сялянская Ніва“?

Далей „Сялянская Ніва“ ў справе пазычкі выварочвае ката дагары нагамі, друкуючы зноў выпіскі з бульварнай газэты „Ekspres Wileński“.

Там „Сял. Ніва“ вуснамі „Ekspresu“ гаворa, што ўрад у 1927—28 буджэтным годзе мае павялічыць даходы скарбу на трыста мільёнаў злотых і крычыць далей ужо сама

# З НЕДАЛЁКАГА МІНУЛАГА.

(Гл. № 29 „Бел. Д.“).

## Антон Луцкевіч.

Антона Луцкевіча ведаюць усе, хто прыймаў і прыймаець удзел у беларускім адраджэнскім руху.

Адзін з першых піонэраў яго, талентны публіцысты і крытык, арганізатар Беларускага Музэю ў Вільні, адзін з закладчыкаў Віленскай Беларускай Гімназіі; актыўны сябра Навуковага, Выдавецкага і іншых таварыстваў — Антон Луцкевіч імпануець кожнаму маладому дзеячу сваімі заслугамі, якіх ніхто ў яго адняць ня можа.

Сярод менскіх нацыяналістых асоба А. Луцкевіча вельмі популярная. Ня тое можна сказаць пра адносіны да яго камуністых. Для ілюстрацыі прыводжу некалькі фактаў. 1922 год. У Польшчы тады былі выбары ў Сойм. Мне была даручана журнальная праца ў нелегальнай расейска-беларускай газэце „Барацьба“, якая кальпартавалася ў Польшчу і агітавала за сьпісак № 5.

Пан Багуцкі, які ў беларускім пытаньні на Ўсходзе адыгрываў пэўную ролю, той самы пан Багуцкі, які зьяўляецца сягоньня сэкрэтаром польскае сэкцыі Камінтэрну і, такім чынам, на камуністычныя справы ў Польшчы маець вялікі ўплыў, — асобу Луцкевіча разглядаў, як галоўнага праціўніка. Багуцкага злавала тое, што А. Луцкевіч не выставіў свае кандыдатуры ў Сойм.

— Хітры, каналья, — казаў ён пра Луцкевіча. — Напішэце процiў яго артыкул, а галоўнае — каб падмачыць яго маральны ўплыў.

Луцкевіча я асабіста ня знаў і памятаю, што нешта такое напісаў. У гэтай самай газэце „Барацьба“ — у артыкуле „Блёк нацыянальных ашуканцаў“ — пісаў процiў Луцкевіча і Прухняк, адзін з самых уплывовых польскіх камуністых. Пісаў здаецца і Ігнатоўскі.

„Барацьбу“ сягоньня вельмі трудна дастаць, а вельмі цікава было-б пакапацца ў архівах і дастаць гэныя артыкулы, з якіх відаць, што першымі, хто стараўся скампраміт аваць Луцкевіча маральна, былі камуністыя. І што-ж пісалася ў „Барацьбе“ пра Луцкевіча? Пісалася, што ён быў у Парыжы, дзе пракуціў народныя грошы і г. д. і г. д. — адным словам пісалася ўсё тое, што потым падхапіла ўся іншая, варожая Луцкевічу, прэса.

Тады-ж, у 1922 годзе ў Польшчу для ўзмацненьня выбарнае агітацыі быў высланы Б. Стасевіч, які цяпер зьяўляецца сэкрэтаром аршанскага камітэту К. П. Б. Ён, здаецца, ў Горадне выпусьціў два нумары газэты „Вясковы Пролетары“, у якой так-сама пад дыктоўку таго-ж самага Багуцкага, які яго выслаў, пра Луцкевіча пісаліся розныя гадасьці, якія павінны былі падарваць яго ўплыў.

Чарвякоў вельмі лічыўся з Луцкевічам і харак-

сабою: „А як-жа будуць павялічаны даходы казны?

— „О, гэта зусім проста!

Будуць падвышаны падаткі, акцызы і іншыя плацяжы — і гатова“...

Ведама, чытаючы гэткія „паважныя“ газэты, як „Dziennik Wileński“ і „Ekspres Wileński“, „Сялянская Ніва“ ня мела часу дазнацца, што павялічэньне даходаў скарбу на 300 мільёнаў злотых у буджэце 1927—28 году палягае *толькі на прыпісаньні* ў стацьцю даходаў 300 міл. злотых, якія ёсьць цяпер ужо ў казьне і лічацца па кніжках, як надвышка над даходамі, прадбачанымі па буджэту.

Пан Більдзюкевіч, галоўны пісака „Сял. Нівы“, ведае бугальтэрыю і мусіў-бы растлумачыць гэта сваім цёмным братом, заместа таго, каб пужаць іх нейкімі новымі падаткамі.

Але што-ж зробіш?

Пішучы ў „Сялянскай Ніве“, якая стаіць на тым грунце, што чым горш Польшчы, тым беларусам лепей, паміма волі мусіць ён усё добрае, што здарылася ў Польшчы, перарабляць на благое.

Так вось і з гэтай пазычкай.

Паміма ўсіх доказаў „Сялянскае Нівы“ і „Dziennika Wileńskiego“, мы лічым сваім абавязкам сказаць, што пазычка гэта вельмі карысная для Польшчы і адчыняе сабою новую эпоху гаспадарчага адраджэньня Польшчы. Ведама, грошай ніхто дарма не пазычае, за пазычку трэба плаціць процанты, але тыя ахвяры, якія мусіць прынясьці Польская дзяржава на аўтар міжнароднага капіталу ў сувязі з пазычкай, акупяцца з барышамі тымі выгадамі, якія яна дае, ставячы на моцны грунт польскую валюту і адчыняючы шырока вароты для далейшага прыплыву загранічных грошай.

Беларускі народ у межах Польскае Дзяржавы, эканамічны быт каторага моцна зьвязаны з эканамічным разьвіцьцём усяе Дзяржавы, ад гэтай пазычкі, таксама можа толькі выйграць.

*М. С.*

**Чытайце, выпісвайце і пашырайце**

**„БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ“.**

тарызаваў яго мне, як спрытнага і разумнага праціўніка камуністых, з якім трэба лічыцца і сьцерагчыся.

А ў 1923, 1924, 1925, 1926 і нават сягоньня, калі Луцкевіча арыштавалі, ці быў хоць адзін момант, калі камуністыя лічылі яго за свайго чалавека? Ніколі! Наадварот мэтаю іх было, як-небудзь зваліць яго. Напрыклад, у 1924 годзе ў падпольных камуністычных кутох ня раз ставілася пытаньне аб тым, каб ашуканчым спосабам выслаць Луцкевіча пад прадлогам лячэньня ў Крым (вядома, што ён мае хворыя грудзі) і адтуль ня пусьціць яго назад. У асьцярожнай форме яму прапанавалі гэта, але ён дыплёматычна адмаўляўся. Насколькі мне вядома і ў 1925 годзе камуністыя хацелі за ўсялякую цану яго пазбыцца і выслаць заграніцу, але і гэта таксама не ўдалося.

Наагул, справа А. Луцкевіча заўсёды была актуальнаю ў камуністычных падпольных колах у тым сэнсе, каб яго тут у Вільні ня было.

Пачынаючы бяздарным і бязрадным Лагіновічам, праз розных „Артураў“ і „Шлёмкаў“ да сягоньняшніх камсамольцаў — усім хацелася Луцкевіча ня мець. А апошні факт, зьвязаны з выхадам аднаднёўкі „Народ“? Сакрэтам толькі для тых, хто нічога ня ведаець, зьяўляецца, што група камсамольцаў сканфіскавала газэту „Наша Праўда“ і ня пусьціла яе на правінцыю за тое, што ў ёй быў артыкул Луцкевіча, напісаны ў сымпатычных тонах для групы Янкі Станкевіча. Чуткі, якія ў сувязі з гэтым хадзілі па Вільні, вельмі характарныя і не бяруся цьвярдзіць, што яны адпавядаюць праўдзе, але гэныя чуткі якраз адпавядаюць таму, што мне вядома аб Луцкевічу і аб адносінах да яго камуністых. І гэныя чуткі палягаюць на тым, што віленскія камуністыя ящчэ зусім нядаўна пастанавілі выкінуць з газэты „Наша Праўда“ А. Луцкевіча і замяніць яго кім-небудзь іншым.

Ахвотна гэтаму веру, бо ведаю, што А. Луцкевіч заўсёды займаў нявыразную пазыцыю, заўсёды трымаўся з рэзэрваю, трымаўся неяк таямніча і сваіх праўдзівых замераў нікому ня выказваў, а гэта вельмі злавала камуністых і нэрвавала іх, бо кожную мінуту яны спадзяваліся ад Луцкевіча таго, што ён падложыць ім сьвіньню.

Выпадкова некалькі разоў спатыкўся я з Луцкевічам у 1924 і 1925 годзе. З размоваў з ім мне ўдавалася выясьніць толькі некаторыя рэчы, якія мяне цікавілі. Напрыклад, у справе падзелу Беларускага Пасольскага Клюбу Луцкевіч займаў выразную пазыцыю — проціў падзелу. У справе паўстаньня „Грамады“ — Луцкевіч, як мне здавалася, таксама быў праціўнікам яе, і можна напэўна цьвярдзіць, што падгатоўчая праца „Грамады“ вялася без яго.

Тым больш дзіўная была пазыцыя Луцкевіча пасьля паўстаньня „Грамады“, сябрам якое ён ня лічыў сябе, але з якою нават публічна салідарызаваўся і гаварыў, што ідэолёгічна да „Грамады“ ён вельмі блізкі. Трудна, вельмі трудна зразумець Луцкевіча, як палітыка.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як палепшыць сенажаці.

Будучына сялянскае гаспадаркі ў Заходняй Беларусі знаходзіцца ў поўнай залежнасьці ад колькасьці і якасьці кормаў для жывёлы, наагул кажучы, ад ступені інтэнсыўнасьці і разьвіцьця сялянскае гаспадаркі.

Цяпер мы часта бачым, што ня толькі ў дробных гаспадароў, але нават і ў большых гаспадарках не хапае корму для быдла. Калі-ж і ёсьць гэты корм, то часта якасьць яго з някультурных балот такая кепская, што быдла вельмі неахвотна зьядае яго, бо гэтае сена кіслае і часта нясе на сабе ўсе асадкі жалезнае іржы. Гэта найлепш даецца заўважыць, калі заглянуць пад весну на зубы ў каня, кормленага сенам з балот. Звычайна тады зубы ў каня абрастаюць, як прыгаркамі, асабліваю масаю на колькі мілімэтраў таўшчыні. Апрача таго, самы збор сена ў нас з сенажацяў вельмі малы—якіх 7—10 цэнтнараў (цэнтнар 6 пуд. 4 ф.) з гэктару, а за граніцаю (Нямеччына, Голяндыя) збор сена з гэктару ў 35—50 цэнтнараў лічыцца нармальным зьявішчам. Прычынаю гэтага ёсьць тое, што ў нас найбольш сенажаці вымагаюць мэліорацыяў, гэта знач. розных палепшаньняў, як пераважна асушкі, зьніштажэньня моху, сьметнікавых траваў, угнаеньня і г. д. Трэба добра памятаць, што амаль ня ўсе нашыя сенажаці вымагаюць баранаваньня іх, што адчуваецца патрэба распухняньня паверхні грунту, каб даць доступ паветра і вады да каранёў расьлін, патрэба выдраць мох, які перашкаджае расьці карысным расьлінам. Рэдка дзе можна спаткаць сенажаць, каб яна не зарасла мохам. Усе махі, носячы батанічны назоў „Musci“, разьдзяляюцца на лістаўны мох з пароды „Hypnum“, які найбольш засяляецца на нізінных або травяных балотах і сенажацях і другі ёсьць гатунак моху, які мае белаваты выгляд, носіць назоў „Sphagnum“ і зарастае найбольш на гэтак званых узвышаных ці верхавых балотах, дзе пясчаны падгрунт, пасярод лясоў. Найбольш часта ў нас на сенажацях спатыкаецца мох „Hypnum“. Гэты мох, як-бы сам па сабе ня прыносіць вялікае шкоды, але вельмі абніжае збор сена і перашкаджае расьці травам.

Каб мох зьніштожыць, дык трэба раньняю вясною, пакуль зямля растала толькі трохі зьверху, добра выбаранаваць сенажаць жалезнаю звычайнаю бараною, або яшчэ лепш спэцыяльнаю лугавою бараною (сыстэмы Лааке). Пад гэты час мох вельмі лёгка выдзіраецца бараною, ды і коні ня гразнуць і не пакідаюць сваіх сьлядоў на сенажаці. Пазьней баранаваньне ня прыносіць ужо гэткай карысьці, бо тады мох амаль зусім не выдзіраецца. Выдраны мох трэба зграбсьці ў кучы, падсушыць і спаліць, або прывязьці на падсьцілі ці перасыпаць зямлёю і зрабіць кампост. Пасьля першага баранаваньня вясною, добра зноў паўтарыць баранаваньне сенажацяў, калі зямля ўжо растала і падсохла. Каб зусім зьнішчыць мох вельмі добра паліваць сенажаці, дзе ёсьць мох, рошчынаю жалезнага купарвасу—зялёны камень—(Ferrum sulfuricum oxydatum crudum), якога бяруць звычайна 1 кілё на 3 — 4 вядры вады. Пасьля паліўкі купарвасам, што робіцца ў сухую

---

Ні разу ня быў я на паседжаньнях „Грамады“, ня ведаю, як выступаў на гэтых паседжаньнях Луцкевіч і якія думкі праводзіў, — мяне дзівіла толькі тое, што ён працуе ў „Грамадзе“ — практычна, як журналісты і такім чынам дапамагаець ёй. Здавалася мне, што ён рабіў тое, *у што ня верыў*. І толькі вялікаю амбіцыяй Луцкевіча, які за ўсякую цану хацеў застацца кіраўніком у беларускім руху, можна вытлумачыць гэты кампраміс яго з сваім уласным сумленьнем і перакананьнем, альбо нейкімі плянамі ў будучыні раскалоць „Грамаду“, выбраўшы з яе беларускі элемэнт. Наіўная, памылковая пазыцыя, калі гэта было так.

Наагул, уся палітычная праца Луцкевіча зьяўляецца для мяне загадкаю, таксама, як і яго перакананьні. Напрыклад, ён лічыць сябе беларускім соцыяль-дэмакратам, марксістым, але, як журналісты, ён увесь час пісаў проціў соцыялістых і асабліва проціў соцыялістых польскіх. Ведама мне што беларускім паслом, асабліва тым, хто быў блізкім да яго, ня раз пападала за тое, што яны ня могуць навязаць кантакту з левымі польскімі дэмакратычнымі коламі, а ў практыцы ён лаяў польскую дэмакратыю.

Вядомае, бясслаўна памёршае „Польска-Беларускае Т-ва“ заснованае ў 1924 г. Тарашкевічам і Астроўскім з аднаго боку і Абрамовічам і, здаецца, Крыжаноўскім, з другога боку — было заснована, бязумоўна, з багаслаўленьня Луцкевіча, пры яго маўклівай згодзе.

Яшчэ ў 1924 годзе, у сьнежні, ён намаўляў Тарашкевіча на заснаваньне легальнае, шчыра легальнае беларускае партыі ў Польшчы і, здаецца, Тарашкевіч напісаў ужо быў праграму гэнае партыі — і з гэтага нічога ня вышла не таму, што Луцкевіч гэтаму перашкодзіў, а таму, што ў Тарашкевіча заўсёды было сем пятніц на тыдні.

Шмат, вельмі шмат можна прывясьці фактаў, якія могуць пасьведчыць, што А. Луцкевіч ня ёсьць нейкі ўкрыты камуністы, а наадварот — зьяўляецца іх праціўнікам, праціўнікам „хітрым і разумным“, як аб ім гаварыў Чарвякоў. І тым ня менш зусім незразумелым зьяўляецца тое, што нідзе публічна ён аб гэтым не гаварыў і ня пісаў, і наагул нідзе публічна не выступаў з пэўнаю палітычнаю дэклярацыяй наконта перакананьняў і палітычных намераў.

Яго „публіцыстыка“ і яго прыватныя размовы— гэта неба і зямля, і трудна, вельмі трудна судзіць, калі ён быў шчыры, ці ў прыватных размовах, ці ў сваёй пісаніне? Адным словам, калі яго характарызаваць, то можна толькі сказаць адно, што гэта нейкая вельмі таямнічая асоба.

— Масон, — часта пра яго гаварылі. Магчыма, што і так, і калі гэта так, то толькі гэтым можна вытлумачыць усе тыя супярэчнасьці, якія напаўняюць сабою ўсю палітычную работу Луцкевіча.

(Працяг будзе).

Вільня. *М. Гурын.*

пагоду, зараз-жа мох чарнее і прападае, а траве гэта ня шкодзіць. Гэтак сама надта добра, пачаўшы ад позьняй восені аж да лютага м-ца разьліваць штотыдзень-два рошчыну хлёрку, вапны на сенажаць, ад чаго гіне мох, а разам і многа сьметняковых траваў. Гэтак-жа кожны год трэба раўняць паверхню сенажацяў, раскідаючы кратавіны і мурашнікі.

Зьніштажаць мурашнікі найлепш у позьнюю восень; пасьля дажджу раскідаць кучу і пасыпаць яе попелам з печы або каінітам, тады мурашкі распаўзаюцца і гінуць ад холаду. Дзе на сенажацях многа ёсьць кратавін і куп'я, то іх зрэзваюць лапатаю альбо асобным стругам з старое калёснае шыны, расьпёртае пасярэдзіне дзеравяным бруском, на якім умацованы кручок для валка. Для гэткае работы ёсьць і спэцыяльныя машынныя прылады, як купкарэз Мантэйфэля, або конная лапата, якая мае выгляд шуфлі з ручкамі і прыладаю для запражкі каня. Сенажаці часта вымагаюць ня толькі распухнянньня грунту, але бывае, што патрабуюць і ушчыльненьня іх, што выпаўняецца пры помачы катканьня. Бывае, што дзярніна на сенажацях асабліва пасьля маразоў выпучваецца, робіцца нездраватаю і слабою. Робяць укачваньне і пасьля баранаваньня і падсеву траваў, каб вецер ня зносіў травы.

Найлепшым угнаеньнем для сенажацяў, будзе кампост, які вывозіцца і раскідаецца па сенажаці з восені. Яшчэ часьцей робяць угнаеньне сенажацяў гнойнаю жыжою, або гнаёўкаю, якою паліваюцца сенажаці зімою, калі мала сьнегу, а звычайна вясною альбо зараз-жа па скашэньні сена. Прынята лічыць, што сто вёдзер жыжы раўняюцца 30—40 пудом добрага гною. Каб моцная жыжа не паліла травы, яе звычайна разводзяць вадою, гэтак, што на адно вядро жыжы даліваюць тры вядры вады.

Другім, ня менш важным, угнаеньнем, якое заўсёды ёсьць у гаспадарцы пад рукою, гэта будзе — звычайны попел з печы, які вельмі надаецца для ўгнаеньня сенажацяў. Часта попел мае ў сабе ад 0,20 да 7% фосфарнага квасу, ад 0,20—да 37% калі або паташу і ад 3% да 75% вапны. Лепшы попел ад лістаўнага дзерава і ад саломы, трохі горшы — ад хваёвага дзерава, але і гэны попел часта трымае 6% паташу і 2,5% фосфарнага квасу. На адзін гэктар патрабуецца ад 100 да 150 пуд. попелу, які лепш мяшаць з зямлёю і рассыпаць на сенажаці позна ў восень або раньняю вясною, пасыпаючы так, каб сенажаць была шэраю ад попелу.

З штучных угнаеньняў на сенажаці найлепш усяго надаюцца: каініт, якога даюць 25 — 40 пуд. (400—650 клгр.) і тамасоўка—240—400 кгр. (15—25 пуд.). На тарфяністыя сырыя і кіслыя сенажаці яшчэ даюць 1000—1500 кгр. (60—90 пуд.) вапны. Угнаеньні гэтыя найлепш уносіць увосень і паадзіночцы, або рана вясною.

Калі трава на сенажаці вельмі рэдкая, кепская, або шмат моху, так што ўгнаеньне мала паможа, тады трэба ўзнавіць дзярніну сенажаці, гэта значыць застасаваць падсеў травы. Але перш за ўсё перад пасевам, каб зьніштожыць старую дзярніну, трэба вельмі добра выбаранаваць сенажаць аж да чорнага, або нярэдка і пераараць плугам грунт, калі пазваляюць варункі. Часамі робяць так, што проста зрэзваюць дзярніну ручным спосабам, складваюць яе ў кучы так, каб у сярэдзіне было пустое месца. Калі дзярніна добра падсохне, дык у сярэдзіну кучы кладуць сухі мох, салому і запальваюць усё гэта, а попел раскідаюць па сенажаці. На балоцістых месцах, пераважна пасьля асушкі канавамі, тарфяны грунт, падняўшы плугам, падсушваюць і выпальваюць. Па гарачым яшчэ попеле часта сеюць грэчку, а пасьля жыта і авёс. Доўгалетнімі до

# БІЛЕТ.

## I.

Я сядаў у цягнік, на маленечкай станцыі паміж Лунінцом і Баранавічамі. Доўгая калейка перад касаю зьмяншалася нек на-дзіва паволі. Паліцыянты, разэпы, пасажыры і бабы, што таргуюць рознымі ягадамі, мяшаліся і мелькам пераскаквалі адны па-за другімі. Урэшце, затуркацеў і пад'ехаў цягнік. Усе кінуліся да вагонаў. Клум і галас, які ўсё больш і больш павялічваўся, стаў расьсявацца і прыціхаць. Замест яго чуліся кароткія, адарваныя зданьні: „Сюды! Сядайце туды! Тут ёсьць месцы! Туды! Туды! Хутчэй!“

Рэчы ніклі з пляцформы. Ў адзін момант пляцформа апусьцела. Толькі нейкая пані, апранутая, як апранаюцца нашыя шляхцянкі, над кучай чэмаданаў выводзіла галасіста:

— „Маня! Маня! Білет! Бяры ты, нарэшце, гэта-ж цягнік адходзіць! Маня! Маня!“

Кароткія мінуты пастою ўжо праходзілі. З-заду за цягніком асталася, быццам раскрыжаваная, фігура незнаёмае пані, якая, здавалася, стоячы на месцы сілілася разарвацца паміж станцыяй і адходзіўшым цягнікам, ды яшчэ даносіўся, нейкі час, зычны плакучы госас: „Білет! Бі-і-ілет!“

Я стаў разглядацца па сьценах купэ. Пасажыраў было на-дзіва мала. На жоўтых сьценах віднеліся чорныя нумары незанятых месцаў. Vis-a-vis сядзеў стройны чалавек год пад сорак. Яго ўжо пад'жылы твар казаў, аб нязвычайным калісь харастве, астрыжаная ўклін, бліндыністая бародка, такія самыя вусы, маленькія бакі, стройны нос і шэрыя, дзіўна сымпатычныя вочы, нек супакойвальна ўплывалі на мяне. Я пачаў няпрыкметна прыглядацца да падарожнага. Трудна было сказаць, чым ён займаўся, і хто ён; сусьветная вайна зрадзіла асобную клясу інтэлігэнтных людзей, якія калісь мелі прафэсію, цяпер-жа іх прафэсію не ўдаецца устанавіць; гэта, так званыя, „былыя“. Былыя інжынеры, былыя чыноўнікі, былыя ахвіцэры, былыя вучыцялі і былыя... былыя людзі, вышоўшыя з рэльсаў, бо дарогу будавалі новыя людзі на новы фасон. Яны ходзяць вечна ў старой пацёртай, залатанай вопратцы, часам узлыхаюць, часам жаляцца, але галоўнаю рысаю іх зьяўляецца тое, што яны ўвесь час чагосьці чакаюць, самі пальцам не крануць, але чакаюць. Папрасеце вы яго вытлумачыць, чаго ён чакаець, ён і сам вам ня скажа і сабе ўясьніць ня зможа, але ўся яго істота гэта—бязьдзейнае чаканьне.

Да такіх людзей пачынаў залічваць я свайго

## АДМІНІСТРАЦЫЯ „БЕЛАРУСК. ДНЯ“

паведамляе сваіх чытачоў, якія дагэтуль не маглі аплаціць падпіснай платы, абяцаючы прысласць яе пасьля збору жыта, што павінны падпісныя грошы прыслаць у найбліжэйшым часе, бо тым, хто падпіскі ня прышле, часопісь *„Беларускі Дзень“* высылацца ня будзе.

сьледамі, устаноўлена, што для падсеву травaў на сенажаці найлепш надаюцца гэткія мешаніны траваў, якія падсяваюць летам у ліпні месяцы або раньняю вясною на добра выбаранаванай ці пад'оранай сенажаці на адзін гэктар:

Тымоткі (Phleum pratense) . . . . . . . . 14 кгр.
Канюшыны швэдзкай (Trifolium hybridum) 6 „
Канюшыны чырвонай (Trifolium pratense) 3 „
Купаўка-ежа зборная (Dactylis glomerata) 3 „
Аўсяніца лугавая (Festuca pratensis) . . . 14 „

Гэткая мешаніна найбольш ужываецца ў Эстоніі і Латвіі.

У Фінляндыі вельмі часта даецца гэткая мешаніна траваў:

Тымоткі (Phleum pratense) . . . . . . . . 23 кгр.
Ежа зборная-купаўка (Dactylis glomerata) 7 „
Аўсяніца лугавая (Festuca pratensis) . . . 7 „
Канюш. швэдзкая (Trifolium hybridum) . $7\frac{1}{2}$ „
Канюш. чырвоная (Trifolium pratense) . . 3 „

Усе гэтыя насеньні траваў павінны аставацца на паверхні грунту нават не забаранованымі, а толькі прыкачанымі гладкім валкам, дзеля таго, што ўсе насеньні траваў лепш за ўсё прарастаюць, калі яны толькі прылягаюць да грунту.

Для мясцовасьцяў Палескіх і ўсюды на Беларусі найлепш надаюцца гэткія мяшанкі траваў, што ўжо ўстаноўлена шмат якімі досьледамі:

| | Для | | |
|---|---|---|---|
| | супяскоу | тарфян. | сенаж., сушэйш. |
| | кілеграм | | |
| Канюш. чырвонай (Trifolium pratense) . . . . . . . . . . . | 12 | 5 | 3 |
| Канюш. белае (Trifolium repens) | 3 | 7 | 2 |
| Канюш. швэдзк. (Trifolium hybridum) . . . . . . . . . . | — | 5 | 7 |
| Тымоткі (Phleum pratense) . . . | 5 | 3 | 3 |
| Ежы зборнае (Dactylis glomerata) купаўка, . . . . . . . . | 4 | 3 | 5 |
| Аўсяніцы лугавое (Festuca pratensis) . . . . . . . . . . . | 3 | 7 | 3 |
| Ратрас французск. (Avena elatior) . . . . . . . . . . . | 3 | 2 | $2\frac{1}{2}$ |
| Палявіцы белае (Aqrostis alba) | 2 | 2 | 2 |
| Канарэечніку трысьніковага (Phalaris arundinaca) . . . | — | 1 | 2 |

Вядомая рэч, што ўсе кіслыя, мокрыя і балотныя сенажаці могуць даваць добрае сена тады, калі яны асушаны, але аб тым, як асушыць сенажаці, як адвясьці грунтовую ваду, гэта залежыць ад мясцовасьці, ад грунту, ад схілу абшару, словам, работа гэта часта занадта скамплікованая, вымагае заўсёды абсьледаваньня спэцыялістых і гэта абгаворым іншым разам.

*Я. Х.*

## Маторы ў гаспадарцы.

У апошнія часы можна заўважыць, як хутка ў гаспадарцы конь замяшчаецца сілаю мэханічнаю—маторам. Утрыманьне і дагляд за канём абходзіцца ў некалькі разоў даражэй. Цяпер і ў нас пачынаюць разумець, якую вялікую ка-

незнаёмага. Ён нешта барматаў сам з сабою, гаварыў упаўголаса, але разабраць, як я ні натужваў вушы, мне нічога не ўдалося, толькі пару разоў даляцела да мяне: „білет, білет…“ і пры гэтых словах ён нясвойска і арыгінальна усьміхаўся. Твар яго кожны раз мяняўся, і гэтая ігра твару што раз болей пачынала цікавіць мяне. Я сядзеў ціханька, баючыся спудзіць яго настрой. У вагон наплываў змрок, а пад мерную туркотку колаў я пачынаў упадаць у дзіўнае палажэньне апруцяненьня. Вывяў мяне з палажэньня паўсну прыемны, грудны тэнор незнаёмцы.

— „Так, — зьвярнуўся ён да мяне,— як гэта часта адно слова выклікае ў чалавеку цэлае мора ўспамінаў.

У момант сон мой прапаў і я настаражыўся, зацікаўлены яшчэ больш яго голасам. Тым часам ён казаў далей: — Я быў студэнтам тады, калі студэнцтва яшчэ не зрабілася аканчальна бяз'ідэйным...

Ён на момант затрымаўся і паглядзеў на мяне, як-бы хочучы пачаць сварку. Я маўчаў.

— Успамінаецца мне, — цягнуў ён далей, — спагнаў я адныя вакацыі ў старым двары, недалёка ад Берасьця. Стары закінены сад гранічыў з такім самым запушчаным паркам. Недалёка рэчка і возера. Высокія прыгоркі, равы і даліны, і сасновы, пахучы, шумлівы бор на небасхіле. Гаспадар і гаспадыня, бязьдзетныя, старыя людзі, мае надта далёкія сваякі, не нарушалі дзеля мае прысутнасьці свайго традыцыйнага, старога як яны, парадку жыцьця, як і не прымушалі мяне датарноўвацца да яго. Ў большасьці выпадкаў я цягаўся па ваколіцах з флейтай, або праводзіў цэлыя, доўгія, летнія дні з вудою, напалявіну распрануты, падкасаўшы даматкання, шырокія нагавіцы і закінуўшы кручок у рэчку або возера, сам перабіраў босымі нагамі ў крыштальна - чыстай, цёплай вадзе, любуючыся лёгкаю плесьсю на паверхні, вызванаю маім боўтаньнем. Часам любіў я, разьлёгшыся ў старым садзе, сярод кустоў ягрeсту, глядзець у бяздоннае неба, праз прасьветы ў гальлі векавечных грушак і лятуцець з усёй сілай маладой фантазіі аб тым, што ніколі збыцца ня можа, а што, аднак, так вечна прыцягвае чалавека да сябе. Цішыня старога саду вельмі цягнула мяне да сябе; ляжыш бывала ў цені, цішыня… ўраз нешта шапацiць аб лісты, б'ецца, пераскакваючы з сучка на сучок, і ўрэшце цяжка падаець, з глухім стукам, на мурог, грушка-кажушок або даўка…

Я быў заўсёды крыху філёзофам, і каб я пашоў на філёзофію, а не на тэхналёгію, дык магчыма — зрабіў-бы кар'еру, але сталася так, што, вучачыся ў горным інстытуце, я больш цікавіўся філёзофскімі заданьнямі, чым выкрэсамі і горнымі досьледамі…

рысьць у гаспадарцы мае гэты мэханічны конь і дзеля таго, што зьяўляецца вялікае зацікаўленьне маторамі, я і хацеў-бы сказаць аб іх некалькі слоў.

Гэты мэханічны конь ёсьць адным з новых, вельмі важным, здабыцьцем у сельскай гаспадарцы, асабліва ў тых краёх, як напрыклад у нас, дзе няма яшчэ электрыфікацыі, і гаспадар павінен карыстацца дарагою і нездаровою для машын сілаю—манежам. Дробнага і сярэдняга гаспадара могуць цікавіць, галоўным чынам, невялікія маторы і найлепшыя з іх, якія можна запрапанаваць нашаму сялянству—гэта маторы ад вядомай на ўсім сьвеце фабрыкі ў Канадзе „Massey Harris", якая вырабляе маторы ў чатырох разьмерах: у $1\frac{1}{2}$, 3, $4\frac{1}{2}$ і 6 конскіх сілаў.




Найменшыя з іх у $1\frac{1}{2}$ сілы добра падходзяць да розных цэнтрафугаў, сэпаратараў, невялікіх малачарняў, і да ўсялякіх машын, якімі карыстаюцца ў дробнай гаспадарцы. Маторы ў 3 сілы найбольш падходзяць да невялікіх фальваркаў, для сячкарняў і невялікіх малатарняў. Маторы у $4\frac{1}{2}$ і 6 конскіх сілаў, галоўным чынам, падходзяць да большых малатарняў і сечкарняў і іншых машын у гаспадарцы, дзе яны могуць замяніць нашых 6 і 8 рабочых коняй. Ня меншае значэньне гэткія маторы маюць і для дробных рамесьленікаў, дзе могуць прыводзіць да руху розныя варстаты і г. д.

У цэлым краі ў нэс, напрыклад, няма воўначосак. Хаця-ж воўначоскі вымагаюць і мала сілы, але гэтая сіла мусіць быць роўная, каб не забірала ні хутчэй, ні памалей. Сілу гэткую можа даць матор. Так сама ў нас ёсьць мала млінкоў; часта трэба ехаць за 2 мілі і больш, каб змалоць збожжа. Маючы маторык, ужо ня цяжка, купіць адпаведнай велічыні млінок і малоць збожжа ня толькі для сябе, але і для суседзяў.

Манеж вымагае, каб малатарня стаяла ў залежнасьці ад таго, на якім месцы стаіць манеж, матор можна паставіць у кожным месцы, дзе стаіць малатарня.

Такім чынам, матор у адным месцы можа прыводзіць у рух малатарню, у другім сячкарню, у трэцім млін, у чацьвёртым маслабойню, сэпаратар і г. д.

Маторы яшчэ тым больш маюць у некаторых выпадках прывілеяў, што дадаюць машыне ідэальна роўны ход, што не патрабуюць у часе працы заўсёднага догляду, і калі не працуюць, то зусім ніякага догляду не вымагаюць. Матор усё такі каштуе крыху даражэй за каня, але за тое праца ім абходзіцца таньней, і ён можа сябе хутка аплаціць; за 2-3 гады грошы могуць гаспадару вярнуцца.

Маторы „Massey Harris" заслугоўваюць з нашага боку тым больш увагі, што яны самі па сабе вельмі практычна збудованы і так проста, што абходзіцца з ім патрапіць кожны гаспадар без усялякае навукі, каштуюць яны адносна таньней за ўсе маторы і, замест дарагое бэнзыны, прыводзяцца ў рух таннай нэфтаю. *П.*

---

Ён затрымаўся, як-бы чакаючы, што я нешта спытаю і праз мінуту зноў казаў:

— Мне, нялюдзіму, заўсёды прыпадала да густу адзінота. Цэлымі днямі і тыднямі я з нікім, апрача маіх старычкоў, ня бачыўся, адкрываў, філёзофствуючы, даўно адкрытыя філёзофскія Амэрыкі, захапляўся прыгожасьцю ваколічнай прыроды і быў здаволены, як ніколі перад тым. Так прашло каля двух месяцаў. Тымчасам дзейка аб маім дзівацтве, як называлі суседзі мой спосаб жыцьця (як я пасьля даведаўся), прайшла далёка па дварох і закутках мясцовае інтэлігэнцыі, а стуль дакацілася да Берасьця і стала пракрадацца ціхком у мясцовыя салёны. Нажаль, я тады таго ня ведаў. І можаце ўявіць сабе: як я быў зьдзіўлены, калі, прышоўшы адзін раз ужо ўночы з паляваньня, застаў у сваім пакоі гаспадара дому, які далажыў мне папрыяцельску, што да мяне прыехаў пазнаёміцца панок з суседняга двара. Я шыбка апрануўся ў свой фарменны сурдут і зышоў на вэранду, дзе старушка-гаспадыня старанна трактавала гасьця горамі саленьняў, сушэньняў, канфітураў і павідлаў. Я досі холадна паздароўкаўся, бармочучы ў нос сваё прозьвішча,—прызнацца я быў надта нездаволены, што нехта задумаў скаламуціць маю адзіноту; узяўшы чашку гарбаты я пачаў, уважна і няпрыветліва насупіўшыся, разьмешваць цукер сярэбранаю лыжачкай. Выходзячы яшчэ, я пастанавіў, адразу адвадзіць яго ад далейшых візытаў, каб і другім не схацелася, але такі праўду, мусі, кажуць, што чалавек — грамадзкая жывёліна…

Ня бачачы новых людзей аж два месяцы, пасьля некалькіх слоў з боку маладога панка, я накінуўся на яго з павялічаным да крайнасьці апэтытам, увесь мой вострый розум і веда, як-бы сабраныя за ўвесь час, вырваліся навонкі; мой язык надаваў такія нечаканыя звароты гутарцы, што я сам ня раз дзівіўся, якім спосабам мне прышло гэта ў голаў. Мае старычкі і панок прарагаталі да досьвітак…

Нарэшце, а дзевятай гадзіне, напіўшыся гарбаткі, панок выехаў, мне-ж хацелася спаць, я адчуваў быццам аскому ад непатрэбнай гутаркі. Аднак, паволі расьсяваліся прыкрасьць і невытлумачальны сорам перад самым сабою, тым больш, што прайшоў цэлы тыдзень, і ніхто мяне не адведваў, а з свайго боку я, каб парваць знаёмства з панком, завярнуўшым тады да нас, не адказваў візытай на яго візыту. Праз восем дзён я ізноў увайшоў у сваю ролю адзінца-нялюдзіма, аставалася ўсяго тры тыдні да майго выезду ў інстытут, зноў трэба было думаць аб экзаменах і падручніках; жыцьцё цягнулася сваёю звычайнаю чарадой і нішто, як мне здавалася, не разварушыць яго парадку, але сталася зусім інакш…

## Не марнуйце гною.

Няма ніякага сумліву, што гаспадар наш беларускі ад'значаецца вялікаю працавітасьцю, большаю можа нават, як іншыя народы. Любіць ён працаваць ад самага раньня да познага вечару, ад усходу да захаду сонца, льючы крывавы пот над сваім родным загонам, над здабыцьцём кавалка хлеба. Паўстаець пытаньне — чаму, ня гледзячы на ўсе натугі нашага селяніна, на ўсю яго энэргію і працавітасьць, яго праца ня ёсьць настолькі прадукцыйнаю, якою павінна быць? Чаму наша вёска стаіць ад вякоў на гэтакай нізкай ступені эканамічнага разьвіцьця? Прыглядзеўшыся добра, аднак-жа, да спосабу гаспадараваньня нашых сялян, ня трудна разгадаць усё гэта, з аднаго боку, праўдаю зьяўляецца тое, што наша вёска адчуваець вялікі голад на зямлю; з другога боку цераспалосіца і трохпалёўка многа перашкаджаець рацыянальнаму спосабу гаспадаркі. З гэтым усім, аднак-жа, можна пагадзіцца яшчэ, — ёсьць-жа на Захадзе Эўропы такія краі, дзе людзі маюць гэтак сама недахоп зямлі, аднак-жа яны ўмелым і рацыянальным вядзеньнем гаспадаркі, патрапляюць выдабыць з зямлі ўсё тое, што з яе можна дабыць. Наша-ж вёска далёка адстала ад тых краін, а адстала галоўна дзеля таго, што ў яе гаспадараваньні ёсьць некая нядбаласьць; некая няшчырасьць у гаспадараваньні і зьяўляецца галоўнаю прычынаю беднасьці і эканамічнага падупаду нашае вёскі.

Ня зьбіраюся пералічаць усіх тых памылак, якія дапускаюць нашыя гаспадары ў сваім гаспадараваньні, але не магу ўмаўчаць аб адной памылцы, вельмі вялікай, якая зьяўляецца агульным грахом нашых вясковых гаспадароў, а гэта абходжаньне з хлеўным гноем. На захадзе Эўропы, дзе зямля ўдабраецца па большай часьці штучным гноем, там і да натуральнага, хлеўнага гною няма гэткае нядбаласьці, як у нашых вясковых гаспадароў, якія ў найбольшай часьці карыстаюцца выключна хлеўным гноем, які вельмі, вельмі ў іх не дацэньваецца. Возьмем гэтакі сумны факт, які спатыкаецца ўсюды на Беларусі, гэта лужына хлеўнае жыжы, на кожным амаль падворку: ці-ж ня ёсьць гэта грэх, каб самы цэнны гной марнаваўся дарма, каб сьцякаў з дажджом, ня прынёсшы тае вялікае карысьці, якую гэтая жыжа магла-б прынясьці, каб яна толькі не марнавалася.

А і з тым гноем, з якога ўжо выцякла ўся жыжа на двор, у лужы, наш гаспадар ня прывык рупліва абходзіцца. Вывозіцца з хлява на поле і выкідаецца на чатыры вятры, бяз ніякага спыненьня над тым, што можа з ім стацца. Абы быў колер, абы трошкі пахнуў — гэтага хопіць. Трэба, аднак-жа, ведаць, што гэтага ўсяго не хапае расьлінам.

Даём сабе замаляваць вочы колерам; але каб паддаць гэтакі гной пад хімічную аналізу, дык можна пераканацца, што гэта ёсьць нішто іншае, як зафарбованая, перагніўшая салома, зусім малое вартасьці. Жыжа сьцякла з яго яшчэ ў хляве, рэшту сілы вымачыла вада на полі, вецер вывеяў, выпякла сонца. Ня бачыць наш гаспадар усяго гэтага і гэтым грашыць, і гэтым даець абкрадаць сябе праз ваду, праз вецер, праз сонца; і радуецца, што ён добры гаспадар, што ён працавіты і руплівы.

І дзівіцца разам з тым, чаму гэта на тым месцы, дзе быў летась гной, сёлета ўжо нічога ня родзіць, і крыўдзіцца, што гэта кепская зямля. А ўся віна ў тым, што ён не шануець хлеўнага гною, не абходзіцца з ім, як трэба абходзіцца, і дзеля гэтага на гэтым многа, многа траціць. А аднак-жа, каб ён прылажыў трошкі болей стараньня, болей руплівасьці, дык мог-бы зрабіць тое, што ні адна капля, ні адна крышка гною не прапала-б дарма, а прыносіла-б яму вялікую карысьць. Усе адходкі жывёлы і свае ён скарыстаўбы на ўгнаеньне свайго загону і яны не прападалі-б дарма, ня кідаліся-б у балота, ня пускаліся-б з ветрам. Каб дапяць усяго гэтага, трэба

---

Тымчасам панок П. усьпеў пабываць, колькі разоў, у Берасьці і сваімі расказамі аб маёй асобе, зацікавіць, а, лепш сказаць, заінтрыгаваць, усю намеўшую работы інтэлігэнцыю, якая займалася толькі плёткамі, зьбіраньнем капіталу і грызьнёй. Мая арыгінальнасьць у сьвеце расказаў і гераказаў расла з каркаломнаю шыбкасьцю, і я, праз два тыдні ад панковай візыты, зрабіўся фармальна паўсюднай цікавасьцю...

Уявеце Вы сабе мой амаль не адчай, калі ў адну з наступных нядзелек нам злажылі восем візытаў старыя знаёмыя маіх сваякоў, якія, здавалася, ўжо забыліся аб іх істнаваньні; у дадатку ўсе гэтыя сем'яніны папрывозілі з сабою кучу моладзі. Дом ажыў, стары сад і парк напоўніўся даўно забытымі маладымі гукамі. Гаспадар дому, калісь капітан і запісны гуляка, таксама, як-бы памаладзеў і ад'жыў; жыцьцё брала свае і я без натугі заваёўваў першае месца заправілы ў гульнях моладзі.

Пасыпаліся запросіны і візыты без перарыву ў працягу трох дзён, бо на чацьвёрты дзень я сам выехаў у Берасьце з рэвізытаў і... больш да сваякоў не вярнуўся. Асеньні сэзон пацягнуў мяне і закружыў мне голаў. Балі, вечары, банкеты, хатнія вечарынкі і я, як цэнтр агульнае ўвагі, уявеце Вы сабе на маім месцы... хто ўстаіць. Скончылася тым, што я зьняў готэль у Берасьці, справадзіў свае рэчы з двара і зажыў гуляшчым жыцьцём, закружыўся ў ім, як матыль у косах вешняга сонца. Ужо ня толькі бацька з маткаю клікалі мяне да сябе, пабыць пару дзён, перад выездам на навуку, скора пачалі клікаць мяне, бяз водгуку з майго боку, пачатыя заняткі; я адкладаў выезд з дня на дзень, з дзён складаліся тыдні, з тыдняў скла́ліся два месяцы адсутнасьці ў інстытуце. Я падумваў ня раз, разважаючы філёзофічна, што ўсё фрашкі над фрашкамі, апраўдаваў сябе, што навука мала мне можа даць, хадзіў вечарамі з паненкамі, у прысутнасьці іх матулечак, глядзець і ўздыхаць на месяц, з тымі-ж піскілвымі паненкамі сьпяваў дуэты і трыо, або яны сьпявалі, а я акампанаваў на фортэпіяне, выслухоўваў іх плёткі. Бессэнсоўнае жыцьцё, што раз, то больш, зацягвала мяне і можа я скончыў-бы тым, што ажаніўшыся з першаю лепшаю, ці горшаю, асеў-бы, ў сваім двары, або ўступіў-бы ў канцэлярыю на службу, і, прытарнаваўшыся да таго асяродка ў якім жыў, растапіўся-б у ім бясьследна, каб ізноў ня выпадак.

**Язэп Паляшук.**

*(Канец будзе).*

ўсе стараньні прылажыць у хляве. Трэба старацца, каб з яго не сьцякала жыжа, а дзеля гэтага трэба старацца ўтрымліваць гной у хляве, у зьбітым вільготным стане, класьці туды часьценка торф, які вельмі ўбіраець у сабе жыжу і розныя газы, і трымаець іх у сабе, як губка. Карысна гэтак сама кідаць у гной лісьцьцё з дрэваў, якія ўвосень ападаюць, і ў найбольшай часьці марнуюцца, разьлятаючыся з ветрам у розныя бакі.

Вывязшы гной у поле, трэба старацца, чым хутчэй разьбіць яго і заараць, бо калі мы яго пакінем на даўгі час незаораным, то ўсе газы з яго выйдуць у паветра, жыжа сьцячэ з дажджавою вадою, а рэшта выпражыць сонца і такі гной ужо вельмі мала прынясець нам карысьці.

Дык трэба памятаць аб усім гэтым, не марнаваць нашага багацьця, хлеўнага гною, не абкрадаць самых сябе нядбалым абходжаньнем з ім, трэба яго шанаваць, а тады будзем мець тое, што маленечкі кавалачак добра прагноенай зямлі дасьць болей карысьці, чымсьці цэлыя дзесяціны пустое зямлі.

*Гаспадар.*

## Нявыкарыстаны капітал нашай зямлі.

Ведаючы з ранейшага артыкулу „Адвадненьне сенажацяў“, якую карысьць прыносіць адвадненьне, трэба не адцягваць, а чым найхутчэй брацца да працы адвадненьня, бо гэта вельмі добра аплачваецца, а затым варта троха падумаць над гэтым.

Няма ў нас такое вёскі, каторая не патрабавала-б адвадніць свае сенажаці, а наадварот — усё вескі сьпяць і ня думаюць аб гэтым.

Як вялікая лічба грунтаў у нас забагненых, паказвае гэткая таблічка.

| Ваяводзтва | Паверхня агульна кл² | Паверхня забагненьня кл² | Процант забагненьня |
|---|---|---|---|
| Наваградзкае . . | 23.450 | 3.300 | 14 |
| Палескае . . . | 42.300 | 16.040 | 38 |

Паверхня грунтаў забагненых, як з гэтага выпадае, ёсьць 19.340 кл.², каторыя прыносяць зусім малы зыск, а часта і нічога.

Па грунтоўным адвадненьні, сярэдня лічыць, што з 1 га будзе чыстага зыску 100 зл. у год (што ёсьць нямнога), то з 19.340 будзе зыску 19.340 зл. у год. Такую суму грошай можна выняць з нашых няўжытачных багнаў.

Калі возьмем пад увагу, што кошты адвадненьня 1 га будуць выносіць каля 200 зл. (што ёсьць многа, бо сярэдня адвадненьне 1 га каштуе 120 зл.), то па двух гадох, як пачнецца на іх разьвівацца лепшая расьліннасьць, нашыя багны сплацяць гэтыя грошы, каторыя былі адданы на работы адвадненьня, а ўдалейшыя гады гэты зыск ідзе для ўласьнікаў зямлі.

Як да гэтага дайсьці нам?

Трэба, каб сяляне, каторыя хочуць паправіць сваю долю, ішлі за голасам навукі, а ня трымаліся старое сыстэмы земляробства, каторую ўзялі ад сваіх дзядоў. Наагул, у нас гаспадаром лічыцца той, хто ўмее гараць дый касіць, а навукі то зусім да гаспадаркі кажуць ня трэба. Аднак-жа, ў цяперашнім жыцьці паказваецца зусім што другое, і калі возьмем да параўнаньня наш край з Галяндыяй, то пераканаемся, што навука—ўсё значыць.

Вучаны галяндзец, альбо датчанін на 3 га зямлі лепей жыве як у нас наш селянін на 10 га.

Аж глядзець сумна, як наш селянін на вёсцы цяжка працуе, ня маючы сьветлае гадзіны, а гэта цяжкая праца, аднак, яго не збагачвае, адно што мае кусок хлеба.

Чаму-ж гэта так?

Можа таму, што наш селянін нешчасьлівы, а іншыя шчасьлівыя? Не! Гэта ўсё залежыць ад таго, хто болей вучаны ў кірунку земляробства.

Дык ня трымаймася ўпарта старых звычаяў, а хадзем за голасам навукі. Закладайма цэлымі вёскамі вадзяныя супалкі, каб адвадніць свае сенажаці і закопаны капітал дастаць для сябе. Вадзяныя супалкі маюць пяршынство на пазычкі ў Зямельным Дзяржаўным Банку, каторы дае доўгасрочныя і нізкопрацэнтовыя пазычкі на адвадненьне грунтаў. Стараўшыся можна дастаць пазычку на 10 гадоў, на 2%, каторая сплачваецца ратамі, па трох гадох.

Дык не адцягвайма, а бярэмся якнайхутчэй за культурную працу над сваёю роднаю зямелькаю, а яна за нашыя труды нам добра заплаціць.

*Я. П—віч.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Пасадка рою ў вулей.

Вульлі павінны быць падрыхтованыя для пасадкі рою, як толькі ён зьбярэцца ў клубок. Калі ў пчаляра ёсьць рамкі ў запасе з пустою вузою, то ён заўсёды павінен паставіць некалькі рамак у вулей, у які маем пасадзіць пчолак і то трэба гэтыя рамкі ставіць так, каб па кожнай рамцы бяз вузы стаяла рамка з вузою, тады пчолкі павядуць правільна і пустыя рамкі, і ўсё гняздо праз гэта зробяць правільна. Калі ў пчаляра ёсьць вялікі запас рамак, то найляпей усё гняздо заставіць рамкамі з вузою, бо пчолкі тады ня будуць траціць часу на рабленьне вузы, а займуцца толькі зборам мёду. Калі ў пчаляра няма зусім запасных рамак з вузою, то ён павінен заставіць гняздо аднымі рамкамі са штучнаю вузою. Пры устанаўленьні рамак з вузою, трэба глядзець, каб гэтыя рамкі стаялі моцна і мелі паміж сабою аднолькавыя одступы. З гэтаю мэтаю трэба палажыць на рамкі т. зв. рэгулятар (такая дошка, якая мае лагчынкі для вярхоў у рамках і аднальковыя выступы, якія заходзяць паміж рамак). Гэты рэгулятар і будзе трымаць рамкі ў аднолькавых одступах. Верх рамак трэба прыкрыць палатном, або тоненькаю дошчачкаю, каб пчолкі ня вылазілі. Прыгатовіўшы, такім чынам, вулей, прыступаем к самому рою. Вось-жа, калі рой сеў дзе-небудзь нізенька на кусьціку, то перш за ўсё трэба пчолак папырскаць халоднаю вадою, каб ляпей сьселіся. Потым трэба разаслаць над роем абрус і прыставіць к яму вулей так, каб адзін край абруса і край дна вульля сходзіліся разам. Трэба старацца пры гэтым, каб рамкі прыстаўленага вульля знаходзіліся пад простым кутом да абруса, бо ў іншым выпадку пчолы сваёю вагаю могуць абарваць вузу ў рамках, хлынуўшы разам у вулей. Калі галінка, на якой селі пчолы, ня тоўстая, то яе можна зрэ-

зацъ і страсьці потым пчолкі на абрус. Пчолкі тады жвава пойдуць у вулей. Цяпер трэба глядзець, каб знайсьці матку. Калі мы яе знойдзем, то зараз-жа садзім у нарыхтованую клетачку з тоненькага дроту і ўстаўляем яе ў вулей.

Садзіцца матка ў клетачку дзеля таго, каб яна не магла выляцець з вульля, калі ён ёй часам не спадабаецца. Выпушчаем матку на другі дзень *увечары*, калі яна ўжо звыкнецца з новым памешканьнем. Калі гэтакім чынам усе пчолкі зьбяруцца ў вулей, мы прыймаем абрус і адносім вулей на тое месца, дзе ён мае стаяць у нас заўсёды. У выпадку, калі рой сеў дзесьці высока і мы ня можам зрабіць першае апэрацыі, то тады абіраем пчолак чысьценькаю лыжкаю ў каробку, альбо ў сіта, абвязанае палатном, здымаем і нясём пад вулей. Расьсьцілаем, як і ў першым выпадку, абрус, прыстаўляем яго да краю дна і высыпаем пчолак на абрус. Так сама робіцца і ў тым выпадку, калі пчолкі селі ў раёўню. Пчолак можна садзіць таксама і зьверху. У гэтым выпадку робім гэтак: адчыняем вулей зьверху і здыймем накрыўку, якая знаходзіцца на рамках, потым выймаем са тры, альбо з чатэры рамкі і ў утвораную, такім чынам, шчыліну асьцярожна высыпаем пчолак. Як пчолкі ўжо разьмесьцяцца ў вульлі, тады вынятыя рамкі устаўляем назад у вулей і накрываем рамкі накрыўкаю, пакінуўшы маленькую шчылінку, дзеля таго, каб тыя пчолкі, якія яшчэ не ўляцелі ў вулей, маглі гэта зрабіць праз гэтую шчылінку, і дзеля таго, каб для новага рою быў вольны доступ паветра. Увечары трэба шчылінку закрыць, добра прылажыўшы накрыўку, а так-жа трэба зьняць рэгулятар на рамках і ссунуць іх так, каб яны шчыльна прылягалі адна к аднэй. Рой неабходна садзіць, як можна скарэй, дзеля таго, што пчолы, чым балей будуць сядзець, тым балей будуць неспакойныя і могуць нават зусім уцячы.

Як пчолкі думаюць раіцца, (вылятаць), то перад вылетам наядаюцца моцна мёду і тады звычайна ня кусаюцца, аднак-жа трэба з імі пастулаць асьцярожна, падчас абіраньня рою, каб не раздражніць. Пры гэтым трэба адзяваць сетку і рукавіцы, каб мець большую веру ў самога сябе, падчас абіраньня рою. Рой часам пакідае новае памешканьне, калі яно яму не спадабаецца, але пчаляр павінен зарадзіць гэтаму так: перш за ўсё павінен старацца злавіць матку і пасадзіць яе ў клетку; калі маткі злавіць не ўдалося, то трэба ў гняздо ўставіць з адну, ці са дзьве рамкі з дзеткаю. Пчолы тады шкадуюць пакідаць чарвы і не ўцякаюць з вульля. Пасьля пасадкі пчол у вулей, трэба пачаць іх карміць, адзін раз ня болей, тады хутчэй пачынаюць працаваць. Раі, якія мы не пасьпелі асадзіць у той дзень, як яны выйшлі, трэба добра хаваць ад праменьняў сонца, бо пчолкі могуць спарыцца і прапасьці.

Вулей перад пасадкаю рою трэба добра вычысьціць, абліўшы і вымыўшы яго добра кіпнем, а потым рошчынаю саліцылавага квасу, ўзяўшы яго адзін грам на літар вады. *Пчаляр.*

# Гаспадарчыя парады.

### Як ухіліць бародаўку з вымя.

Досіць часта на цыцках у каровы зьяўляюцца бародаўкі, якія перашкаджаюць пры даеньні. Калі бародаўка сядзіць на тонкай ножцы, дык яе лёгка ўхіліць. Дзеля гэтага трэба ножку бародаўкі моцна перавязаць вымытым конскім воласам. Праз нейкі час бародаўка сама адпадзе. Тады трэба колькі дзён месца, дзе была бародаўка, шмараваць ёдам. А бародаўку, якая ўелася ў цела, самому вывясьці ня лёгка. Трэба ўдацца да вэтэрынара.

### Як выкарыстаць канапляную цермяць.

Канапляную цермяць, якую часта выкідаем вон, як непатрэбнае сьмяцьцё, вельмі добра выкарыстоўваць, як падсьціл, у куратніках. Гэтая цермяць добра ўбірае курачыя адпады, уцягвае няпрыемны пах, доўга ня брудзіцца калам, цёплая і лёгкая; апрача таго, гэтая падсьцілка нішчыць і спыняе расплод курачых вашэй і іншых апівошаў, якія ня выносяць паху канапель. У канаплянай цермяці куры любяць коршкацца, а рух добра ўплывае на іхняе здароўе. Гной гэты лёгка выграбаецца з куратніка і зьяўляецца адборным гноем пад гародніну.

### Лякарства для курэй, якія ня могуць зьнясьціся.

Слабой курыцы даецца ў рот 10—15 зярнят чорнага, круглага цэлага перцу. У практыцы гэты лек добра зазначыўся. Курыца, што 2—3 дні ходзіць з яйцом,—цераз 15—20 мінут пасьля перцу зьняслася і была здароваю.

### Як лячыць здутую жывёлу.

Здутую жывёлу можна лячыць некалькімі спосабамі: 1) Здутай жывёле даецца пляшка вады, ў якой распушчана 400 грамаў гляўбэрскае солі. Даецца па поўпляшкі цераз поўгадзіны. 2) У пляшку з мыльнаю вадою дадаецца сталовая ложка нашатырнага сьпірту, разьмешваецца і даецца па поўпляшкі цераз поўгадзіны. 3) Да пляшкі з вадою дадаецца па чайнай ложцы дзёгцю і газы, зьмешваецца і даецца на раз. 4) Здутая жывёла заганяецца ў ваду, або здутыя месцы абкладаюцца мокрымі посьцілкамі і паліваюцца вадою. 5) Даецца адвар з анісу і кмену. 6) Даецца пляшка вапнянага малака.

Лячыць адным з гэтых спосабаў.

(*Сільський Світ*).

### Як карыстацца дзёгцем пры барацьбе з хваробамі курэй.

Заграніцаю для захаваньня здароўя птушак карыстаюцца дзёгцем для дэзынфэкцыі памешканьняў птушак Дзеля гэтага перш добра абмываюць сьцены птушніка лугам. Далей замазваюць дзёгцем усе шчыліны на сьценах і столі. Паверх дзёгцю птушнікі выбельваюць вапнаю.

Паху дзёгцю ня зносяць вошы, кляшчукі і другія чужаеды, якія часта жывуць на птушках і разносяць заразу. Былі выпадкі, што нават халера курэй, ад якой гіне 80-90 процантаў, зараз-жа спынялася. Дадаваньне некалькіх кропель дзёгцю ў ваду для піцьця птушкам гэтак жа каштоўна для іх здароўя.

**Прачытаўшы газэту, перадай суседу!**

## Ад Арганізацыйнай Камісіі.

*Гэтым арганізацыйная камісія па скліканьню падгатоўчай конфэрэнцыі прыхільнікаў „Беларускага Дня“ паведамляець, што асабістыя запросіны на конфэрэнцыю за подпісам рэдактара Ф. Умястоўскага разасланы 19 кастрычніка, з якімі сябры конфэрэнцыі павінны зьвіцца да тэхнічнага сэкрэтара конфэрэнцыі 24 і 25 кастрычніка, у памешканьне рэдакцыі „Б. Д.“ ul. Cicha 4 т. 20.*

# Корэспондэнцыі.

### Вёска Галавенчыцы і вёска Кісялёўшчына,

*Сьвяржанскай воласьці, Стаўпецкага павету.*

Хачу сказаць пару слоў аб гэтых дзьвёх вёсках, аб гэтых двух сьветах, якія ёсьць у нас на Беларусі, і якія гэтыя вёскі найляпей прадстаўляюць, як-бы сказаць рэпрэзэнтуюць. Сапраўды, прыглядзеўшыся к жыцьцю гэтых дзьвёх вёсак, зусім нятрудна адгадаць і ўбачыць, што гэта дзьве крайнасьці, два лагеры зусім розныя і сабе праціўныя — праціўныя, ня гледзячы на тое, што гэтак блізка месьцяцца каля сябе, бо-ж заледве два кілёмэтры, і ня гледзячы на тое, што яны жывуць аднолькаваю нядоляю селяніна-Беларуса, разумеецца, ў сэнсе гаспадарчага жыцьця і палажэньня. Грамадзкае-ж жыцьцё гэтых дзьвёх вёсак і жыцьцё сямейнае і рэпрэзэнтуець акурат дзьве праціўнасьці, дзьве, як-бы сказаць, прорвы, ды яшчэ і вялікія. Стварaець гэтую прорву розьніца рэлігіяў, як і наагул у нас на Беларусі.

Гэтая розьніца ў рэлігіях і не даець сялянам жыць сумесна, не даець ім рэпрэзэнтаваць і абараняць разам свае сялянскія інтарэсы, не даець ім гэтак сама разам змагацца з нашаю нядоляю — агульна-беларускаю.

Бо калі жыхары вёскі Галавенчыцы, разумеецца ня ўсе, а ўсё-ж такі большасьць, лічаць сябе Беларусамі, можа нават і не дзеля таго, што яны сьвядомыя Беларусы, а дзеля таго, што яны ўсе праваслаўныя і лічыць сябе палякамі ня лічаць ганаровым, то наадварот, жыхары вёскі Кісялёўшчыны лічаць сябе палякамі — не дзеля таго, што яны сьвядомыя палякі, а толькі дзеля таго, што яны каталікі і лічыць сябе Беларусамі лічаць за сорам — у іх разуменьні Беларусам можа толькі быць *мужык, хам*, як яны называюць праваслаўных Галавянчан, дый наагул праваслаўных. Вот тут-то і выяўляецца ўся трагэдыя Беларускага жыцьця вёскі, тут то і выяўляецца ўся страшэнная прорва паміж праваслаўнымі-Беларусамі, і Беларусамі-каталікамі, загрувасьціць і зраўняць якую вельмі трудна, а якую, аднак-жа, трэба пастарацца нашай маладой дый сьвядомай інтэлігэнцыі загрувасьціць і зраўняць, адным словам, трэба пастарацца даць зразумець сялянам, як адным, так і другім, што яны ўсе бяз розьніцы рэлігіі — Беларусы і што ў іх ёсьць адна супольная справа — беларуская, і адно супольнае жыцьцё-беларускае. Трэба старацца зьнішчыць тое, што цераз сваю шматгадовую працу зрабілі *нэо-хвальш-хрысьціяне*, што зрабіла *нэо-хрысьціянская* аблуда і тады можа засьвітае новае жыцьцё для сялян, жыцьцё згоды брацкай паміж сабою, жыцьцё супольнага змаганьня за лепшую беларускую будучыню.

Бо-ж сумна глядзець цяпер, як жывуць нашыя сяляне паміж сабою, якіх разьдзяляець розьніца рэлігіі, а прыкладам чаго ёсьць якраз дзьве вышэйназваныя вёскі, адна мужычая, моцна замкнутая ў сваёй цемнаце, другая нібы шляхочая, пераняўшая *фальтыва* заходнюю культуру. Тыя самыя сярмяжнікі, якія моцна розьняцца паміж сабою і ў сваім жыцьці, адны трымаюцца свае адвечнае цемнаты, свае грубасьці, сваіх брыдкіх, бруковых лаянак, сваіх... шапак, якіх нідзе ў хаце ніколі ня скідаюць, і сваіх баек на кожнай вечарыне, ці на вясельлі. Зайдзеце вы ў гэтую вёску і вам адразу кінецца ў вочы грубасьць і цемната. Зайдзеце вы на вечарыну ці на вясельле і паглядзеце — ўбачыце там дзікую оргію, якую спраўляець галавенчыцкая моладзь, са сваімі краса-дзяўчынкамі; дзікія і шалёныя скокі ў шапках з папіросамі ў вуснах, лаянкі самыя страшныя, самыя бруковыя, сваркі пад п'яную руку і бойкі, адным словам, убачыце дапатопнае жыцьцё з усімі яго праявамі, убачыце вы там нешанаваньне старэйшых, ні жаднага сораму перад дзяўчынамі, ані моральнага пачуцьця перад дзяцьмі.

Другая вёска — Кісялёўшчына жывець ужо зусім іначай, трымаецца заходняе культуры, хвальшыва, разумеецца, пераняўтае ёю, але-ж трэба, ведама, паказаць сваю вышэйшасьць перад *мужыкамі*, якая-б яна ні была. Маюць дзьве мовы, адну будзённую, якою гаворыць паміж сабою ў будзённыя дні і якою гаварылі *заўсюды* іх бацькі, дзяды і прадзеды — гэта знача беларускую, а другую сьвяточную — нова-польскі жаргон, як-бы ляпей назваць тую іх сьвяточную мову, якою гавораць у сьвята пры касьцёле на фэстах і з кожным новым чалавекам, разумеецца, каб паказаць, што яны не абы хто, а... шляхта, патомкі Заглобы..

Любяць неяк удаваць з сябе паноў, ці паўпанкаў і бараніць іх, а не сваэ інтарэсы. на выбарах і ў валасных радах, наагул любяць варочацца ў далікатных „сфэрах“, забыўшыся аб тым, хто яны ёсьць у запраўднасьці...

Бачыце, браточкі, шчырыя Беларусы, што за дзьве вялікія супярэчнасьці ёсьць ў нас на Беларусі, як паладзіць іх і як іх зьнішчыць, як забыцца пра іх? Калі-ж зразумеюць адныя і другія, што яны адна беларуская сярмяжная маса і што ім трэба ісьці разам у брацкай згодзе ў жыцьці і разам здабываць яго, і разам бараніць свае сялянскія інтарэсы.

Адны павінны вырачыся свае цемнаты адвечнае, свайго дапатопнага жыцьця, а другія свае паўпанскасьці. Калі гэта наступіць, прыйдзе нешта новае, нешта сьвятлейшае, нешта лепшае для іх і для будучых пакаленьняў.

*Рэха.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

Сялянкі Саюз, як падае „Сял. Ніва", арганізуе конфэрэнцыю сяброў Саюзу з Брацлаўскага павету. Выбары зьбліжаюцца, праца павялічваецца.

### Школьны тыдзень.

На падтрыманьне і пашырэньне беларускага прыватнага пачатковага школьніцтва Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры проектуе наладзіць зборку ахвяраў па ўсёй Заходняй Беларусі ў працягу г. зв. „школьнага тыдня". Проект вельмі добры і заслугоўвае на падтрыманьне.

### Праца Беларускага Народнага Тэатру.

У нядзелю 16-га кастрычніка Беларускі Народны Тэатр выяжджаў у м-ка Яшуны, каля Вільні, дзеваладзіў спэктакль. У хуткім часе Беларускі Народны Тэатр мае выехаць на правінцыю. Затрыманьне выклікаецца рэарганізацыяй і падборам артыстычных сілаў.

### Асыгноўка на дзяцей і сіротаў.

Міністэрства працы асыгнавала на месяц кастрычнік 11 315 злот. дзеля дабрадзейных установаў Віленшчыны, якія апякуюцца дзяцьмі і сіротамі.

### Дапамога пацярпеўшым ад граду.

Міністэрства працы і грамадзкае апекі асыгнавала пацярпеўшым ад граду жыхаром вёскі Кліны, Браслаўскага пав. 800 зл. і жыхаром Смаргонскай валасьці 4.700 зл.

# Апошнія навіны.

**Францыя**. У Парыжы пачаўся працэс Шварцбарда, забойцы б. украінскага атамана Пэтлюры. Шварцбард заявіў, што забойства даканаў ён, як акту помсты за масавыя пагромы жыдоў, якія дапушчаліся войскам Пэтлюры. Ёсьць аднак шмат доказаў, што Шварцбард быў агентам III інтэрнацыяналу, і, як такому, яму было даручана забіць Пэтлюру.

— Амбасадарам савецкім у Францыі назначаны Даўгалеўскі, нязнаны дагэтуль дыплёмат. Францускі ўрад даў сваю згоду на асобу Даўгалеўскага.

**Нямеччына**. Нямецкія вуглякопы забаставалі, жадаючы падвышэньня заработкаў. Некалькі вялікіх фабрык спынілі працу, дзеля нястачы вугля.

**Латвія**. Арыштована 35 асоб з латыскае пагранічнае варты і чыгуншчыкаў, якім закідваецца шпіёнаж на карысьць Саветаў.

**Эстонія** 27 кастрычніка г. г. пачнецца працэс б. эстонскага пасла ў Саветах Бірка. Прыпамінаем, што Бірк, будучы эстонскім паслом у Саветах, не падпарадкаваўся інструкцыям свайго ўраду. Калі ўрад адклікаў яго, ён, баючыся адказнасьці, астаўся ў саветах. Аднак, пасьля і савецкія ўлады пачалі прасьледаваць Бірка, так, што ён уцёк з Расеі ў Эстонію і аддаўся ў рукі ўладаў. Бірку грозіць кара 6 гадоў цяжкіх работ. Як сьведкаў, суд паклікаў цэлы рад эстонскіх дыплёматаў.

**Літва**. Літоўскі прэзыдэнт міністраў выслаў жалабу ў Лігу Нацыяў проціў прасьледаваньня літоўскай меншасьці ў Польшчы. Акцыя Вальдэмараса ня сустрэла спагаду сярод вялікіх дзяржаваў.

**Англія**. Адбыўся конгрэс ангельскай Партыі Працы. Конгрэс пастанавіў не старацца ўходзіць у ніякія паразуменьні з бальшавікамі. Адначасна конгрэс выступіў проціў закону аб забастоўках, апрацаванага кансэрватыўным урадам Бальдуіна.

**Чэхаславакія**. У Празе забіты альбанскі пасол у Чэхаславакіі Зэна Бэг. Забойства даканаў малады альбанец, студэнт у Рыме. Пасол Зэна Бэг быў староньнікам альбанска-югаслявянскага паразуменьня і праціўнікам альбанска-італьянскага саюзу. Забойца па арыштаваньні сказаў: „Зэна Бэг хацеў прадаць маю бацькаўшчыну, Альбанію, сэрбам і таму я его забіў". Словам, Балканы ізноў, як і перад вайною, сталі асяродкам усякіх неспадзяваных магчымасьцяў.

**Італія**. Улады даканалі рэвізіяў і арыштавалі 20 анархістых, якіх маюць выкінуць з граніцаў дзяржавы.

**Польшча**. Урад замкнуў над'звычайную сэсію Сойму, якую перад гэтым быў адсрочыў на 30 дзён. Што раз часьцей гаворыцца аб прысьпяшэньні разьвязаньня Сойму.

# ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

Паважаны пане Рэдактар!

У № 30 Вашае паважанае часопісі ў зацемцы аб арышце Антона Луцкевіча паміж іншым сказана, што ўся беларуская інтэлігэнцыя шануець Луцкевіча. Я, як беларускі інтэлігэнт, заяўляю, што прызнаючы заслугі А. Луцкевіча, як здольнага культурнага работніка на ніве беларускай, адначасна не магу здабыцца на вялікую пашану для чалавека, які ў палітычнай працы сваёй прывык заўсёды хавацца за чужыя плечы. Таксама ня выклікае вялікшай пашаны мэтод барацьбы А. Луцкевіча з яго палітычнымі праціўнікамі, які для паборваньня іх не задумваўся над закідамі „правакацыі", „здрады", „дэфэнзыўшчыкаў" і выліваньня іншых брудаў на галовы найчэсьнейшых беларускіх дзеячоў, толькі за тое, што думкі свае яны асьмеліліся проціставіць думцы яго, Луцкевіча, і не хацелі іграць з ім у адну дудку.

З пашанай *Інтэлігэнт.*

**Ад Рэдакцыі.** Друкуючы гэнае пісьмо, аўторам якога зьяўляецца адзін з старэйшых беларускіх адраджэнцаў, які сваё прозьвішча хоча захаваць у сакрэце, каб ня выклікаць непатрэбнай асабістай полемікі, адначасна рэд. заяўляе, што ў зацемцы аб арышце А. Луцкевіча характарызавала яго толькі, як дзеяча культурнага, а ў галіне яго палітычнэй працы зусім падзяляе закіды, зробленыя ў пісьме.

Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.